РЭДАКТАР-ВЫДАВЕЦ М. ГАРЭЦКІ.

# ДЭКЛЯМАТАР.

ВІЛЬНЯ 1921.

Янка Купала.

# А хто там ідзе?

А хто там ідзе, а хто там ідзе?
У вагромністай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што йны нясуць на худых плячах,
На ў лапцях нагах, на ў крыві руках?
— Сваю крыўду.
А каму нясуць гэту крыўду ўсю,
А каму нясуць на паказ сваю?
— На сьвет цэлы.
А хто гэта іх, не адзін мільён,
Крыўду несьць навучыў, разбудзіў іх сон?
— Бяда, гора.
А чаго-ж, чаго захацелась ім,
Пагарджаным век, ім сьляпым, глухім?
— Людзьмі звацца.

Максім Багдановіч.

# Край ты мой родны!

Край ты мой родны! Як выкляты Богам—
Столькі ты зносіш нядолі.
Хмары, балоты... Над збожжам убогім
Вецер гуляе на волі.

Поруч раскідаліс родныя вёскі.
Жалем сьціскаюцца грудзі!—
Бедныя хаткі, таполі, бярозкі,
Усюды панурыя людзі...

Шмат што зрабілі іх чорныя рукі,
Вынесьлі моцныя сьпіны;
Шмат іх прымусілі выцярпець мукі
Пушчы, разлогі, нізіны.

Кінь толькі вокам да гэтага люду—
Сьцісьнеца сэрца ад болю:
Столькі пабачыш ты гора усюды,
Столькі нуды без патолі.

У гутарках-казках аб шчасьці, аб згодзе
Сэрца навін не пачуе.
Сьціснула гора дыханьне ў народзе,
Гора усюды пануе.

Хваляй шырокай разьлілась, як мора,
Родны наш край затапіла..
Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?!
Брацьця! Ці хваце нам сілы?!

Якуб Колас.

# Не бядуй!..

Не бядуй, што сонца нізка,
Што праходзіць нудна дзень;
Не бядуй, што восень блізка
І налёг на землю сьцень.

Не бядуй, што сьнег халодны
Скрые землю ад вачэй:
Не загіне край твой родны
У цемнаце ліхіх начэй!

Будзе час, і сьнег растане,
Прыйдзе к нам ізноў вясна;
Ціха з неба сонца гляне,
Ачуняе старана!

Не бядуй, што цяжка стала
Жыць у вечнай цемнаце,
Што нас доля вечна гнала,
Што жывём у беднаце.

Не бядуй, што зьвісьлі хмары,
Што і сонца ня відаць,
Не бядуй, што ў ноч пажары
Сталі неба заліваць...

— Пойдзе дымам ўсё ліхое,
Усё, што душыць нас і гне!
Вер, што жыцьцё залатое
Будзе ў нашай старане!

Янка Купала.

## Хоць за хмараю хмара.

Хоць за хмараю хмара плыве чарадой,
    Сільней хмар—гэта сонца агні.
І ты, брат, не бядуй, рвіся к сонцу душой,
    Яшчэ раз не засьні, не засьні!
Болей крыжам адным—гэта сьцень прад зарой,
    А там лепшыя, новыя дні!
Дык ня плач-жа, брат мой, запей песьню са мной,
    Яшчэ раз, не засьні, не засьні!

Карусь Каганец.

## Адважна, брацьця.

Адважна, брацьця, наперад ідзіце
    Цвёрдай і правай ступою.
Кожнаму ў вочы сьмела глядзіце,
    Праўду нясіце з сабою.

Гальяш Леўчык.

## Нічога ня хочу.

Нічога ня хочу... нічога, нічога—
Ні грошы, ні славы, ні шчасьця сьляпога,
    А толькі усё жду я, каб родная мова
    Хутчэй дачакала свабоднага слова!
Пакуль не даждуся багацьця такога—
Нічога ня хочу... Нічога, нічога!

Гальяш Леўчык.

## Хто адрокся.

Хто адрокся сваіх,
Хто стыдацца нас стаў
І прыліп да чужых,
—Каб ён сьвету ня зняў!
Мову родную хто
Пазабыў, асьмяяў,
Загубіў за нішто,
—Каб ён сьвету ня знаў!
Сваю родну зямлю
Хто чужынцу прадаў—
Скрыўдзіў вёску сваю,
—Каб ён сьвету ня знаў!
Хто з народам ня жыў
І карысьці ня даў,
Хто сваіх ня любіў—
—Каб ён сьвету ня знаў!

Алесь Гарун.

## Хто сказаў.

Хто сказаў: „і я з народам“,
Хто з ім поплеч стаў, як з братам,
Хто пайшоў з ім роўным ходам,
К роўным зыскам, к роўным стратам,—
З тым і я. Няхай-жа ліча,
Будзе трэба—хай пакліча.

Хто-ж сказаў, а потым зрадзіў,
Хто пайшоў, а потым кінуў,
Хто ў душы сумленьче згладзіў,
У кім апошні сорам згінуў,—
Хай дрыжыць. У дзень прысуду,
У страшны дзень, я сьведчыць буду!

Фёдар Чарнышэвіч.

## Песьня каваля.

Мой горан пылае
І іскры ляцяць;
Я мех уздуваю
І буду каваць...
Працую, гарую,
Як моцы стае;
Гартую, муштрую
Зялеза мае...

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..

І гнецца пароюь
Зялеза і сталь,
Як возьме рукою
Здаровай каваль...
Скую, вось, касу я,
Загну, закручу
І выйду уночы —
Нядолю скашу!..

У кузьні ад раньня да ночы стаю
І молатам лепшую долю кую!..
І холад і голад
У хатцы вітае,
А праца і молат
Мне моц адбірае!..
Гэй, ўдару-ж я, ўдару!
Гарно разьдзьмухну,
Сагну, загартую
Я сэрца—касу!
Я праўду і волю кахаю—люблю
І молатам лепшую долю кую!

Янка Купала.

## Беларускія сыны.

Па Беларускім бітым шляху,
Б'ючы у кайданавы званы,
Брыдзе чужынец, а з ім побач
Хто?
— Беларускія сыны!
У Беларускім вольным краю,
З ярэмнай збрыўшы стараны,
Царыць чужынец, а ў паслугах
Хто?
— Беларускія сыны!
Над Беларускай беднай хатай,
Як полка вырвана з труны,
Вісіць чужы сьцяг, а трымае
Хто?
— Беларускія сыны!

У Беларускім Божым доме,
Як над касьцямі груганы,
Крумцяць чужынцы, а іх складам
Хто?
— Беларускія сыны!
На Беларускім буйным полі
З вясны да новае вясны
Растуць крыжы, а пад крыжамі
Хто?
— Беларускія сыны!

Галубок.

## Будучыня.

Кіпіць работа, плыве пот,
І крык і гул, як гром;
Туды-сюды снуе народ:
Будуюць новы дом.
Лапаты рэжуць глыб зямлі,
Зьвініць сталёвы лом:
На месцы даўнай старыны
Будуюць новы дом.
Штодзень угору сьцены йдуць,
Ушыр і ўдоўж кругом,
Баліць мазоль і рвецца грудзь,
А ўсё-ж будуюць дом!
Настане дзень, надойдзе час,
Мы крэпку столь зьвядзём,
І лепшай прышласьцю для нас
Быць мусіць новы дом!

Працуйма-ж, брацьця! Хай хутчэй
Наці льецца пот цурком:
Прыжджом і мы сьвятлейшых дней.
Як скончым строіць дом!

Янка Купала.

# КУРГАН.

*Памяці С. Палуяна.*

I.

Паміж пустак, балот Беларускай зямлі,
На ўзьбярэжжы ракі шумнацечнай
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,
Удзірванелы курган векавечны.
Дуб гальлё распусьціў, каранасты над ім,
Сухазельле у грудзі ўпілося;
Вецер стогне над ім уздыханьнем глухім,—
Аб мінуўшчыне ў жальбах галосе.
На Купальле там птушка сядзіцца, пяе,
У Піліпаўку воўк нема вые;
Сонца днём распускае там косы свае,
Ночкай зоры глядзяць залатыя.
Хмары неба ўсьцілалі мо' тысячу раз,
Пяруны білі з края да края,—
Ен стаіць—гэта памяць людзкая—паказ..
Толькі гутарка ходзе такая.

II.

На гарэ на крутой, на абвітай ракой,
Лет назад таму сотня ці болей,
Белы хорам стаяў, недаступнай сьцяной
Грозна, думна глядзеў на прывольле.
У нагах у яго расьцілаўся абшар
Хвоек гонкіх і пахані чорнай,
Сонных вёсак шары, хат амшалых, як мар,
Хат з сям'ёй душ падданых, пакорных.
Князь у хораме жыў, слаўны сьвету ўсяму,
Недаступны і грозны, як хорам;
Хто хацеў, не хацеў—біў паклоны яму;
Спуску, ласкі ня знаў непакорам.
Зьняважаў, катаваў ён з дружынай сваей;
Стражы князевы ў полі і дома;
Толькі модлы расьлі небу ў сэрцах людзей
І праклянцьце расло пакрыёма.

III.

Раз бяседа вялікая ў князя была:
На пасад дачку-княжну садзілі,
За сталом він заморскіх крыніца цякла,
Бегла музыка ўкруг на паўмілі.
На вясельле-разгул наплыло, як на сход,
Госьці знатных з усюль, за паўсьвета;
Гэткай гучнай бяседы ня помніў народ,
- Гэткіх скарбаў, брылянтаў, саетаў!
Дзень-другі ўжо грымела у князя гульня,
І музыкі, і чаркі зьвінелі;
Выдумлялі забаў новых кожнага дня;
Што хацелі, ўсяго госьці мелі.
Ажно трэцяга дня князь прыдумаў адну

Для дружыны пацеху, забаву:
Загадаў ён пазваць гусьляра-старыну,
Гусьляра з яго ведамай славай.

IV.

Акалічны народ гусьлі знаў гусьляра;
Песьня-дума за сэрца хапала;
Вакруг гэтай душы дудара-званара
Казак дзіўных зляжылась нямала.
Кажуць, толькі як выйдзе і ўдара як ён
Па струнах з неадступнаю песьняй,—
Сон зьлятае з павек, болю цішыцца стон,
Ня шумяць ясакоры, чарэсьні;
Пушча-лес ня шуміць, белка, лось не бяжыць,
Салавей-птушка ў той час сьціхае;
Паміж вольхаў рака, як штодзень, ня бурліць,
Паплаўкі рыба-плотка хавае.
Прытаіцца да моху русалка, лясун;
Каня вечнага «піць» не заводзе;
Пад звон-песьню жывучых гусьляравых струн
Для ўсіх папараць кветка ўзыходзе.

V.

Прывяла гусьляра з яго ніўных сяліб
Дворня князева ў хорам багаты;
Пасадзілі на ганку, між клёнаў і ліп,
На цагляным парозе магната.
Нявыдумная сьвітка—убор на плячах,
Барада, як сьнег белы — такая,
Нязвычайны агонь у задумных вачах,
На каленях ляглі гусьлі-баі.

Водзе пальцам худым па сталёвых струнах,

К песьні-музыцы ладзіцца, строе;
Водклік б'ецца ад струн па сьцюдзёных сьцянах,
Заміраючы ў сковах пакояў.
Вось настроіў, навёў тон у струнах, як сьлед,
Ня зірнуўшы на гулі ні разу,
І сядзіць гэты сумны, як лунь, белы дзед,
І чакае ад князя прыказу.

VI.

„Што-ж маўчыш ты, гусьляр, ніў, лясоў песьня-бай,
„Славай хат маіх падданых слаўны?!
„Нам сягоньня зайграй, нам сваіх песень дай.
„Князь умее плаціць нязвычайна!
„Запяеш па-душы, дасі ўцехі гасьцям —
„Поўны гусьлі насыплю дукатаў;
„Не пад мысьль песьня будзе каму-небудзь нам —
„Канапляную возьмеш заплату.
„Знаеш славу маю, знаеш сілу маю...
„Многа знаю і чуў аб табе я,—
„І я сам, як і ты, так табе запяю...
„Ну, пара пачынаць, дабрадзею!"
Гэтак слухае, выслухаў князя гусьляр;
Заіскрыліся вочы сівыя;
Патануў у скляпеньнях адзін, другі ўдар,
І заплакалі струны жывыя.

VII.

„Гэй, ты, князь! гэй, праслаўны на цэлы бел-сьвет!
„Не такую задумаў ты думу,—
„Не дае гусьлярам сказу золата цьвет,
„Белых хорамаў п'яныя шумы.
„Скурганіў-бы душу чырванцом тваім я;

„Гусьлям, княжа, ня пішуць законаў:
„Небу справу здае сэрца-думка мая,
„Сонцу, зорам, арлам тольki роўна.
„Відзіш, княжа, загоны, лясы, сенажаць,—
„Ім пакорны я толькі з гусьлямі.
„Сілен, грозен і ты, і твой хорам-астрог—
„Б'е ад сьцен, цэгел лёдам зімовым,—
„Сэрца маеш, як гэты цагляны парог,
„І душу—як скляпоў гэтых сховы.

VIII.

„Глянь ты, слаўны ўладар, на палеткі свае:
„Сарачні там сох бачыш, як блудзе,
„А ці чуў ты, аб чым там араты пяе?
„Дзе і як жывуць гэтыя людзі?
„Глянь у лёхі свае, ў падзямельлі глянь, князь,
„Што настроіў пад хорамам гэтым:
„Брацьця корчацца там, табой кінуты ў гразь,
„Чэрві точуць жывых іх, разьдзетых.
„Ты ўсё золатам хочаш прыцьміць, загаціць...
„Ці-ж прыгледзіўся, хорамны княжа?
„Кроў на золаце гэтым людзкая бліщчыць,
„Кроў, якой і твая моц ня змажа.
„Ты брылянтамі ўсыпаў атласы і шоўк—
„Гэта цёртая сталь ад кайданаў,
„Гэта вісельні петляў разьвіты шнурок,
„Гэта, княжа, твае саматканы.

IX.

„Стол ты ўставіў ядой, косьці шмат пад сталом,—
„Гэта косьці бядноты рабочай.

„Пацяшаешся белым, чырвоным віном,—
„Гэта сьлёзы нядолі сірочай.
„Хорам выстраіў ты, твайму воку так міл,
„Адшліфована цэгла і камень,—
„Гэта памяткі-пліты з няўчасных магіл,
„Гэта сэрц скамянеўшыхся пламень.
„Люба чуці табе скочны музыкі звон:
„Ты, дружына п'іцё асалоду,
„А ці ўслухаўся ты, як плыве з яе стон,
„Стон пракляцьця табе, твайму роду?!
„Ты зьбялеў, ты дрыжыш, слаўны княжа, ўладар!
„Госьці хмурны, а дворня зьнямела...
„Ну, што, княжа? пара даць за песьню мне дар!
„Выбачай, калі сьпеў мо' няўмела."

X.

Князь стаіць, князь маўчыць; жуда, помста б'е з воч
Гулі зглухлі: ні жартаў, ні сьмехаў...
Думаў князь, выдумляў, дрогнуў шабляй наўзбоч,
Толькі з лоскатам выбегла рэха.
„Гэй, ты, сонцу раўня, не на тое пазваў
„На вясельле цябе сваей княжны!..
„Ты—шалёны, стары! хто цябе дзе хаваў?
„Ты, знаць, вырадак цемры сярмяжнай.
„Ты адважыўся мне на сьляпы перакор
Вызваняці сусьветныя трэлі;
„Платы маю шмат я для такіх непакор,
„Хто сябе проці мне стаць асьмеліў.
„Я пакнязеўску ўсім і плачу, і люблю;
„Ты ня хочаш дукатаў,—ня трэба!..
„Узяць старца і гусьлі жыўцом у зямлю!
„Знае хай, хто тут пан: я, ці неба!"

## XI.

Падхапілі, ўзялі гусьляра-старыка,
Гусьлі разам яго сама-гуды;
Па-над бераг круты, дзе шумела рака,
Павялі, панясьлі на загубу.

Месца выбралі здатнае, вырылі дол.
Дол тры сажні шырокі, глыбокі;
Закапалі, убілі асінавы кол,
Далі насып тры сажні высокі.

Не часалі дамоўкі яму сталяры,
Не заплакалі бліжнія вочы;
Змоўклі гусьлі і ён з тэй пары—да пары;
Сум і сьціша залеглі, як ночай.

Толькі князеўскі хорам гудзеў, не маўчаў;
Шалы, музыка ў тахт рагаталі;
Не адну віна бочку князь кончыў, пачаў:
Шлюб-вясельле ўсё княжны гулялі.

## XII.

Пацяклі, паплылі за гадамі гады...
На гусьляравым наспе жвіровым
Палыны узышлі, вырас дуб малады,
Зашумеў непанятлівым словам.

Лет за сотню зьвёў час, ці і болей мо лет;
Зацьвілі пераказы ў народзе;
Кажуць людзі: ў год раз ночкай з гусьлямі дзед
З кургана, як сьнег, белы выходзе.

Гусьлі строе свае, струны звонка зьвіняць,
Жменяй водзе па іх абамлелай,
І ўсё нешта пяе, што жывым не паняць,
І на месяц глядзіць, як сам, белы.

Кажуць, каб хто калі зразумеў голас той,
Не зазнаў бы ніколі ўжо гора...
Можна тут веру даць—толькі слухаць душой...
Курганы шмат чаго нам гавораць.

Аляксандар Пшчолка.

# „У ЦІЯТРЫ“.

Сяджу я, браткі, у тым самым ціятры, аж зараз адзін у скрыпку — пісь, другі падняў трубу — прагудзеў, трэці павешаў рагавень — зарухаў. Кожны наладзіў для парадку свой штрумэнт. Слухаю я: нязграбна, трубяць, ды ня тым трахтам. Скуголяць, аж ня лоўка слухаць. Той-жа, што сядзіць пасярэдкі, меціў, меціў, ды як махане пугаўём, а тыя, што з бакоў, кожны з свайго штрумэнта як сьцебануць, як раўкнуць, як сыпнуць! Во, браткі, каго паслухаць!.. Ого-го! Гэта ня жарты!.. Панасавы цынбалы? — Цьфу! Нічога ты, Хвядос, няварты пасьля таго!.. І Пятрусёва скрыпка і блізка не падходзіць! Крый, Божа! Калі-б усе цынбалы сабраць, і самаго Язэпа, і Маркаву дуду, і Зьмітраковых мальцаў у рад паставіць, і Сідару пугаўё ў рукі — і то ні блізка! Барані, Бо-о-ог! Таму — ні трубы, ні басэтлі, ні паўдзежкі... Якія трубы? Што дым ідзець — Цьфу! Ату табе, Мікіта, ату, балота! Што ты відзіў? Нічога ты ня відзіў! Ты відзіў толькі балота, вёску

ды сьвіньней!.. Труба гэта бліскуча, як самавар, з найлепшага масяндзовага матарыялу. Адна равець, другая храпіць. Ву-ву-ву! — во як.

Ізноў-жа дудкі, наўродзе жалеек, тыя больш вярха, ціль-ціль-ціль, гдзе пісьніць, гдзе сьвісьніць! Басэтля-ж здорава гудзіць, ды і работы з ёю даволі. Жарты — ён чэшыць смыкам, аж лоб трэць. Здаровая махіна, досыць працы! Ну і так з драбязы у скрыпку драбняку падсыпаюць даволі, валяць у вадну руку і ўсе па кніжках глядзяць. А той пугаўём ведай махаіць і туды, і сюды, проста пад нос бліжэйшым падступаіць. Жарылі, жарылі, тады сталі, а жалейкі і скрыпкі давай самі па сабе розныя штукі вывадзіць. Вадзяць, скуголяць. І труба да іх патроху прыстала. Я-ж думаю, вось табе й раз! Зьбіліс на быкі... Аж зараз той самы пугаўём як махнуў к таму, што на канцы сядзіць, а той размахнуўся булдавешкай ды як дасьць па паўдзежку, а паўдзежык — лоп, лоп, лоп!.. Аж проста ў пяткі коліць. Пад канец-жа, як разыйшліся, як сыпнулі барджэй барджэй, ён пугаўём жарыў, жарыў і — бац! Сталі ўсе і стаяць..

Паны ці былі? Ды так што ўсе паны. З нашых, з мужыкоў, ня відаць. І я дастукаўся затое, што Сымонавы капоты апрануў і ў Трахіма ботаў дастаў. Ня ўсякага і пусьцяць. Дзе я сядзеў? Уверсе. А ўнізе — паны, на зямлі, знацца, на сьценах паны. Як—на сьценах? А так, калі, прыкладам прыбіць да сьценак кошыкі і ў кошыкі наторкаць розных паноў, а ў сьцяне зрабіць вокны, а в вокнах дзьверы, а цераз дзьверы ход. Дык вось ты, прыкладам, сядзіш у кошыку, а захацеў

вон, адчыніў — і валі, куды хочаш... Табе сьмех, балота ты!.. Толькі ўнізе паны найбольш з мужчын, сьпераду з лысых болі, тады з вайсковых, з вурачнікаў, з прыставоў, а на сьценах паны з панятамі і з жонкамі. Але увабраны ўсе, воўк іх еж, — лоўка. Праўда, танкаваты троху з бакоў, але нічога. Усё болі у чырвоным-а рукі голы, як вось, калі, дзяжу месяць бабы, і так каля шыі не зашпілена, на галаве валасы памялом, а самі фуфырацца, сьмяюцца, вачамі во гэтак, а тыя, адзаду што стаяць, — у іхнае вуха нешта шэпчуць, Там-жа на кошыку скрыначкі ат табакі: з тых скрыначак пані патроху бяруць і памалу каштуюць у прыкуску.

Тады што было? Тады, як сыгралі троху, кожны пайшоў адпачнуць, і я драбануў. Усё болей каля боку дзяржу і ўсё віджу. Паны лупяць у харчэўню і зараз за гарэлку. Праўда, сьцябаюць лоўка. Толькі ня так, як у нас: у нас болей проста з горла ды ў горла. А там кілішкі, як журавель, і закуска, і рыжы чалавек каля іх бегаіць. Я, гэта, выняў цыбук, хацеў пакурыць... Аж нейкі курносы кажаць мне: „А ты што?“ — „Я, кажу, з гарладзёркі“. А ён мне кажаць: „Падальшы, падальшы!“ Я тады каля сьцяны, ды ў дзьверы, ды ня ў тыя. Заблудзіўся. Во, каб цябе! Праўда, рыжы падышоў, паглядзеў на мае дакумэнты, ды мяне за руку, ды за плячо, ды на лесьвіцу: „Калі, кажаць, ты з гарладзёркі, дык і сядзі на гарладзёрцы“. — „Я, кажу, заблудзіўся трохў“. — „Ідзі, кажаць, пакуль па шыі не палучыў“. Але, ўсёткі, відаць, з благародных: і гаворыць

ласкава, і ня штурхаіць. Я вышэй, вышэй, бокам і трапіў на свой трахт, ды на свае дываны.

Гляджу на бакі, уверх, уніз. Аж разам той самы пугаўём—шарах! А тыя хто ў трубы, хто ў скрыпкі... Тады, браткі, і сьцяна паднялася. Дадушы-ж паднялася! Сьцяна такая намалёваная, з конямі. Гляджу я. Божухна Ты мой! Выскачыла многа ўсякага люду, але не ад тутэйшых паноў, і давай пяяць. Расьпінаюцца, крычаць, гойкаюць, бегаюць, скачуць усё во гэтак подскокам. Тады к ім выскачыў нехта белы, у балахоне. Бегаіць, скуголіць і рукой во гэтак паказавае. Ізноў якая-то баба ці-то маладзіца да іх падскочыла. Пішчыць, плачыць, аж за сэрца хапаіць. І Бог ведаіць, якое што тут зачыналася, аж уваччу замітусілася. Нічога не гаворыць, а плачуць, гойкаюць, за горла хапаюць, рукі уверх падымаюць. Во так болей: го-го, го-го, гі-гі-і! Зайцоў зганяюць? Не-е! Гэта не балота! Я сам сьпярша думаў, што, знацца, гоняць каго, аж не-е. Яны так межа сабой. Пакрычаць, пойдуць адзін к аднаму, абнімуцца, цалуюцца і ўзноў разойдуцца. Тады белы, што ў балахоне — падыйшоў к таму, што з пугаўём, і пачаў крычаць, крычыць адзін, аж голас трасецца, і руку к яму цягне, пугу, мусіць, хоча схапіць, а той, ведай сваю справу—жарыць, а той тонкі каля басэтлі працуець. Гляджу я: сьцяна валіцца, валіцца,—і закрыла таго, што ў белым. А паны давай крычаць, б'юць у далоні, дзяруць горла, аж вочы вон. Найболей з гарладзёркі, нагамі навет стукаюць. І тыя, што ў кошыках, плёскалі, але патроху... Усякі на ўсю сілу крычыць: брысь, брысь, брысь! а другога нічога не разабраў. Кры-

чалі, покуль белы цераз дзірку галаву не прасунуў. Прасунуўся і кланяецца. Во гэтак. Ен-жа пайшоў к сабе, а яны ізноў крычаць; так крычаць асабліва з гарладзёркі, што аж вочы на лоб. У, мяне аж у вушох затрышчэла. Думаю сабе: пайду прачухаюся на холадзе. І пайшоў, каля сьценкі збачыўшыся, ды на лесьвіцу, ды па лесьвіцы, ды к дзьверам, ды к другім (тут я ізноў лысых увідзіў: мусіць к гарэлцы пайшлі), ды к трэцім, ды за дзьверы. Гляджу, аж Сымон і Трахім мяне чакаюць, піпкі паляць. —„Хадзі, кажуць, дамоў, бо Мэндаль запрэць кватэру. Заўтра, кажуць, рана трэба на машыну".—„Во, каб вы выхварылі! яшчэ, кажу, прыстаўленьне будзець!" А яны: „Мае боты, мае капоты, трэба на машыну"...

А што рабіць? Як не мае, знацца, боты, ды не мае капоты, ды й ад кумпанства не аставацца, дык я й драбануў з імі на кватэру, а тады і дамоў.

Дык вось якая справа, а ня тое, што Панасавы цынбалы... Цьфу!

Янка Купала.

## Гэй, наперад!

Гэй, наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на простор,
Годзе млеці ў паняверцы;
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

Хай бацькі стагналі ўчора,
Йшлі на той сьвет без пары;
Сёньня ў нашай моцы гора,
Мы жыцьця гаспадары!
Думка ў думку, дружна, сьмела
Усе наперад грамадой!
Кожны ведай сваё дзела,
Знай, за праўду крэпка стой!
К новай долі шлях нам ляжа,
Як на небе млечны шлях,
Слова, дум, ніхто ня зьвяжа;
Жыць, цярпець ня будзе страх
І ня стане больш пакуса
Першых-лепшых збоку браць
Славяніна-беларуса
Вечна ў лапці абуваць.
Дык наперад, покі сэрца
Б'ецца, рвецца на прастор!
Годзе млеці ў паняверцы!
Гэй, да сонца! гэй, да зор!

Якуб Колас.

* * *

Мы ходзім—спатыкаемся,
Бадзяемся, як п'яныя;
Мы з голадам зрадніліся,
Худыя, абарваныя.

Асьмеяны, аблаяны,
Гразёю мы абмазаны,
Багатымі мы скрыўджаны
Няволяю мы зьвязаны.

У балоты мы адціснуты,
Загнаны мы у шчыліны;
І вочы нам завязаны,
І вушы нам зачынены.

Адно мы добра ведаем:
Хоць вечна мы блукаемся,
А ўсё-ж такі, хоць некалі,
А праўды дапытаемся.

Пётра Просты.

# АБРАЗКІ.

*(Ахвяруецца Якубу Коласу).*

Я чуў, як мой брат-беларус сьпяваў свае песьні.

Божа! Колькі мукі і енкаў у ягоным голасе, колькі скаргі страшнай у гэтай песьні, што выходзіла з яго грудзей і смутна і нудна лілася па

полі, аддавалася гулка ў лесе і падымалася вышэй і вышэй—аж да сіняга неба!

За сэрца хапала гэтая песьня—песьня мужыка-нявольніка.

Загудзелі ў душы ўсе струны, з'грудзей вырваўся енк і на вачах закруціліся сьлёзы...

Бедны, бяздольны народ; сьлязьмі і потам залітая зямелька.

* *
*

Вот вёска, дзе жывуць мае браты.

Дрэньненькія хацёнкі прыляпіліся адна да аднэй; абапал стаяць хлявы і паветкі; дзе-ня-дзе ўгледзіш садок. Толькі рабіна, што плача чырвонымі сьлязьмі, ды кудравая бяроза, ды хвойка векавечны глядзяць на тваю, беларус, нядолю...

Як смутна!..

А кругом раскінулася шырокае поле. Як мурашкі, высыпаліся туды мужычкі і, сагнуўшыся над цяжкімі сохамі, аруць усохшую зямельку. Тут уся іх надзея, усё іх багацьце, усё іх шчасьце...

* *
*

У беднай, курнай хатцы, на канцы вёскі, гарыць лучына, уткнёная ў сьцяну. На скрыпучай жэрдцы вісіць калыска, а ў ёй ляжыць галоднае дзіцятка. Над ім, сагнуўшыся, стаіць маці і пяе песьню—нудную, смутную песьню, а ў тэй песьні столькі енкаў, столькі нявыплаканых сьлёзаў, што самому хочацца разам з ёю плакаць і крычаць на ўвесь сьвет: „Ратунку! Падмогі!..“

А там, у куце, на лаве варушыцца нешта пад кажухом. Гэта хворы мужык-гаспадар хоча падняцца, каб напіцца вады—і ня можа. Яго кінулі сілы: цяжкая непамерная праца падтачыла яго здароўе, і вось ён ляжыць, бядак, зьвесіўшы мазалістую руку, і сьпёкшыміся губамі шэпча: „Піць“, а пасьля доўга-доўга кашляе... Відаць, што ўжо апошнія свае дні дажывае мужык. Гэта канец гаротнага жыцьця...

* *
*

Вот могільнік, гдзе ляжаць косьці нашых дзядоў і бацькоў.

Некалькі хвоек, ліп і бярозак, з паўсотні згніўшых крыжоў—і ўсё...

Як ціха, як смутна.

Нішто не парушае вечнага сну нябожчыкаў,—іх адпачынку па цяжкім, бяздольным жыцьцю. Толькі часам закрычыць сава, што зьвіла сабе тут гняздо ў дупле старой ліпы, закаркае варона, закукуе-загалосіць зязюлька над мужыцкай нядоляй Заўтуруюць ёй сваім шумам хвойкі і бярозы—і ізноў усё сьціхне, засьне...

Вось ты які, мой родны край!

Смутак вее ад тваіх вёсак, ад палёў тваіх і лясоў, ад рэк і вазёраў, і ад тых крыжоў, што стаяць пры дарогах. Смутак чуваць у тваіх песьнях-скаргах, мужык беларускі; смутак і надзея ў тваіх малітвах, што да Бога шлеш.

Смутак і скарга...

Люблю цябе, мая родная старонка, мая мат-

ка—Беларусь! Ты выгадавала мяне, ты мне паказала нядолю і сьлёзы маіх братоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Віджу—ўсходзяць над табой зоркі ясныя. Усё сьвятлей робіцца ў табе...

Веру—ўстане сонца, пашле яно нам свой сьвет, разгоніць туман, што спавіў цябе, Беларусь!

Прыйдуць для цябе лепшыя часы...

Для сыноў тваіх зачнецца новае жыцьцё—вольнае, сьветлае! Стануць яны ўрад са старэйшымі сваімі братамі і дружна возьмуцца да агульнай працы, а ты, маці, падымеш спаняверанную дагэтуль галаву і сьмела будзеш паглядаць у ясную будучыну, што нясе тваім дзяцём лепшую долю, лепшую славу!

Язэп Беларус.

## Да Беларусі.

Беларусь, ты не загінеш,
Беларусь, ты не памрэш!
Волі—долі не пакінеш,
Варагоў перамажэш.
    Беларусь, ты маеш многа
Сёл, мястэчак, гарадоў,
І дадуць яны даволі
За свабоду ваякоў.

З імі крыж свой цяжкі здымеш
Той нядолі, што нясеш,—
Беларусь, ты не загінеш,
Беларусь, ты не памрэш!

Альгерд Абуховіч.

## Ваўкалак.

Чараўніца уракла,—
Быў я колісь ваўкалакам:
Бегаў чортам ўздоўж сяла,
І к гавядам поўзаў ракам,
І людзкую знаў гаворку,
І з сабакамі знадворку
Гаварыць я спосаб меў.
За гумном раз ціха сеў,—
Ажно Лыска прыляцеў.
Як на панскай службе стаў,
Па прыязьні ён мне кажа:
—«Кінь ты, куме, жыцьце ўража:
«Цяпер марна прападаеш,
«А ты-ж—ўсякі спосаб знаеш:
«Майму пану стань служыць,
«Табе добра будзе жыць»
—«Ах ты, дурню, думаў я:—
«Мне вярнуцца да сяла?
«З сваім панам і з сялом
«Задушыся ты калом!
«Хоць галодзен—я свабодзен,

«Гдзе мне цягне—там бягу,—
«На свабодзе прападу,
«А ў няволю—не пайду!
«Буду вольным ваўкалакам,—
«Ты-ж—на прывязі сабакам..

Альгерд Абуховіч.

# Старшына.

Хоць які кірунак дай,
Адно тое, братка, знай,
Што крутнёю ўсё пакруціш,
І найлепша збаламуціш.

---

Льва—манарха воўк прасіў,
Каб вайтом яго зрабіў, —
Бо авечкі у нялядзе
Шкодзяць вельмі ў панскім садзе,
Ды і самі прападаюць,
Бо як жыці бач ня знаюць.
І ліса за ім прасіла
(Яе жонка льва любіла).
Воўк з лісіцаю звязаўся
І як можна так стараўся:
— Дзе прасілі, дзе ўздыхнулі,
Дзе гасьцінца падаткнулі:
Каб дабіцца да мэдалі
І плацілі, і прасілі, і стагналі...

Леў гаворыць: „Хоцзяць толькі,
Што авец зьядаюць воўкі.“
І сазваць сказаў народ
На зьвярыны вальны сход,
Распытаць усіх зьвярат:
— Воўк ці добры, ці ён гад?
Чыны важны ўсе прышлі,
Усё начальства тут было,
Ды прычыны не знайшлі,
Зла аб воўку ня чутно:
Пад судом ён бач ня быў,
І з начальствам добра жыў,
Дык мэдаль вайта надзеў
Воўк на ўвесь авечы хлеў.
— А авечкі што-ж сказалі?
— Іх на сход зусім ня звалі.
А сьпісана ў пратаколе,
Што „авечкам дана воля“.

Янка Купала.

## Агароднік.

(З Некрасава)

На людзей нападаць, забіваць не хадзіў,
Не хадзіў, куды ночкай ідуць цемнякі,
Праз дзяўчыну-красу я свой век загубіў,
Згінуў з ласкі паненкі, шляхоцкай дачкі.

Працаваў я у садзе у панскім вясной;
Вот раз неяк зграбаю сучкі ды пяю,
Глядзь, дачка майго пана стаіць прада мной!
Глядзіць зорка ды слухаець песьню маю.
Агароднік дасьціпны, я швэндаўся шмат;
Па дварох, па мясцох я багатых бываў,
І нагледзіўся там многа пекных дзяўчат,
А такой-жа ніразу нідзе ня відаў.
Бровы чорныя, стройна й прыгожа была,
Стала жутка, я песьні свaей не дапеў.
А яна?... што-ж яна?... пастаяла, пашла.
Я-ж за ею у сьлед, як шалёны, глядзеў.
Ня раз чуў на сяле ад сваіх маладзіц,
Што і сам я прыгож, на пагляд ня брыдкі,
Як той сокал, гляджу, кругдаліц, белаліц,
Валасы нібы лён, сам ўвесь стройны такі.
Разыгралася сэрца з вясёлай душой,
Ды як глянуў я тут на пакоі яе,
Засьвістаў і махнуў маладзецкай рукой,
Дый скарэй за мужыцкія думы свае.
А прыходзіла-ж часта яна з той пары,
Пагуляць, паглядзець на работу маю,
І сьмяецца са мной, і крычыць: гавары,
Чаму неяк прыўныў і даўно не пяю.
Я-ж маўчу, ад чаго смуцен стаў, не кажу,
Галаву зьвешу толькі на белую грудзь.
„Пазволь, яблынку я за цябе пасаджу;
Ты ўмарыўся, пара, знаць, табе адпыхнуць“.—
„Што-ж такое, паненка, вазьмі, на, паўчысь,
Памажы мужыку, папрацуй крыху й ты!
Ды як брала рыдлёўку ў мяне сьмяючысь,
Тут пярсьцёнак убачыла мой залаты.
Ад пахмурнага дня вочы сталі цямней,

На губах, на шчаках разыгралася кроў,
„Што з табою, паненка? чаму на мяне
Няпрыветна глядзіш, хмурыш чорную броў?“—
„Скуль узяў, скажы мне, ты пярсьцёнак такі?“—
„Скора будзеш старой, як усё будзеш знаць“.
„Дай мне! я пагляджу, незгаворны які!“
І за палец мяне ручкай беленькай хваць!..
Пацямнела ў вачах, душу кінула ў дрож,
Я даваў, не даваў ей з пярсьцёнкам руку,
Дый прыпомніў тут, знаць, што і сам я прыгож,
І, ня знаю ўжо як, цмок! паненку ў шчаку.
З таго часу з ёй шмат скаратаў я начэй,
Многа шчасьця зазнаў, ў ясны вочы глядзеў,
Расплятаў, заплятаў касу сьветлую ей,
Цалаваў, мілаваў, песьні родныя пеў.
Мігам лета прашло, ночы сталі сьвяжэй,
Пад дзень шэрань, мароз пад нагамі скрыпіць.
Вот раз неяк скрадаўся ў пакоі я к ей,
Аж хтось-цап! і „зладзея дзяржы“ тут крычыць.
Так злавілі мяне, на дапрос прывялі;
Я стаяў і маўчаў, гаварыць не хацеў.
Красату з галавы вострай брытвай зьнясьлі,
І жалезны убор на нагах зазьвінеў.
Асьцябалі сьпіну і пагналі дружка
Ад радзімай старонкі у дальні краёк
На бяду і нуду. Знаць, любіць ня рука
Мужыкам, нам хамулам, ды панскіх дачок.

Алесь Гарун.

# Юдам.

Да вас, паны, што голасна крычыце
Аб прыязьні сваей да „беднага народу“,
Што раіце па-лісьсяму: „Маўчыце,
Нядоўга вам дамо багацтва, волю, згоду“,—
Да вас мой гэты верш і словы ўсе благія,
Бо словам вы адны, а справамі—другія.
„Багацтва вам“.. Няма вам нашай веры!
Бо ў той-жа год ліхі, як ў полі не ўрадзіла
Галоднаму на прокарм хлеба меры
Адвэй ня далі вы. I злаялі няміла...
Калі для нас жадаеце багацтва,
На што з бяздольнага зьдзіраеце апратку?
На што-ж тагды вы плодзіце жабрацтва,
Дамы пустошыце бяз ліку, без астатку?
„Мы волю вам“... Праклянцьце вам і з ёю!
Чаму ад волі вашай мы стагнаць павінны?
Яна ланцуг над нашаю зямлёю;
Астрог на наш народ спакойны і бязьвінны.
Ня воля гэта! Што нам ні цьвярдзіце,
Мы вольнымі былі за даўнымі часамі.
Ідзіце-ж проч! і з воляю ідзіце!
Да волі знанае хутчэй мы прыдзем самі.
«Мы згоду вам»... Пакіньце ашуканства!
Вы—бойкі братняе чарнейшыя праракі,
Бяз звады вам, нашэптаў, падтыканства,
Нямілы Божы сьвет, ня ясны, ня шырокі.
Ня просім вас! ня трэба вашай згоды!
Сваё вялікае, дзядоўскае багацьце
Хаваем мы; ад Бога ўсе народы
І бацькі аднаго ўсе дзеці—людзі, брацьця.

Адкуль вы к нам? Чыйго племя і роду?
З якіх краёў прыйшлі бяз праўды і бяз сэрца?
І што вам з нас, ад нашага народу?
Чаму так жычыце яму хутчэй памерці?
Га! знаем вас, атручаньня найміты:
Вы—служкі чорныя Ясьнейшага Мамона,
Вы—мора бруд, ля берагу намыты;
Бяз дум і без мазгоў, вы—золата бяз звону.
З усіх бакоў на паслугі уціску
Чаргою воўчаю зьяўляецесь усюды,
Дзе клічуць вас для крыўды, для націску
На праўду вечную... Вы... вы... імя вам: Юды!
Ідзіце-ж проч! Бязплодна ваша трата
На ласкі лісьсія. Пакіньце слова „брат“!
Вы цяжкі сон. Каты... Вы горай ката!
Кругом праклятыя, вам бацька, брат—дукат!

Максім Багдановіч.

## Калісь глядзеў...

Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.
Ды што мне цемень вечнай ночы?
Калісь глядзеў на сонца я!
Няхай усе з мяне рагочуць,—
Адповедзь вось для іх мая:
Калісь глядзеў на сонца я,
Мне сонца асьляпіла вочы.

Валадзімір Жылка.

# Пралескі.

Зямелька-маць радзіла іх
Ад першых пацалункаў сонца!
Між зёлак леташніх сухіх
У бары ўзышлі яны ў староньцы.
Шумяць што-разу вяселей
Над імі хвоі аб прадвесьні,
І вецер што-дня ласкавей
Іх песьціць і пяе ім песьні.
І хоць зімы відны сьляды,
Яшчэ марозіць часам ночкай,
Ды больш ня страшаць халады,
І верыш мілым сінім вочкам;
І любы так бясконца мне
Яны, з усьмешкай ціхай дзеці!
Пара іх, кволых, праміне,
Прайдуць яны,як ўсё-на сьвеце.
Але ўжо мкне душа мая
У сіню даль за пералескі,
І ўсходзяць ў сэрцы—чую я—
Тугі вясьнянае пралескі.

1921.

Янка Быліна.

# Зязюля і Варона.

Вяеной Зязюля прыляцела
І ў зялёным гаю села,
Села сабе на суку
І зачала сваё: „Ку-ку, ку-ку"...
Варона там гнядо рабіла
І так да яе загаманіла:
„Чаму, Зязюля, не працуеш,
Толькі цягам ўсё кукуеш?
Досыцькукаваць так бязупынку,
Перастала-б хоць гадзінку,—
Рабіць гняздо мне пашкаджаеш.
„Эх, Варона ты дурная!
Ці-ж ты гэтага ня знаеш:
Мужык рабіць увёў моду,
А я дык з панскага вядуся роду;
Ніхто з нас рабіць гнязда ня зне
І ня кормім мы дзяцей,—
Гняздо за нас ім зробіць хам
І дзяцей пракорміць нам".
І вот-жа ей
Так Варона адказала:
„Хоць розуму я маю мала,
Аднак-жа, мне, дурной, здаецца,
Што ў нас парадак завядзецца,
Справядлівы будзе ўсім закон,
І што паноў такіх пагонянь вон".

Ф. Багушэвіч.

# Дурны мужык, як варона.

Весь сьвет кажа, б'ець у звоны:
„Дурны мужык, як варона"
Гэта-тыкі справядліва:
Ен дурнейшы ад вароны,
І ня дзіва — было-б дзіва,
Каб мужык ды быў вучоны.
Дык крычыце-ж, біице ў звоны:
Дурны мужык, як варона.
Да навукі ён ня браўся,
Закасіўся, загараўся;
Дурнем умрэ, як радзіўся,
Сам сабой дурным зрабіўся.
Ведама, мужык — хамула, —
Ад навукі адвярнула!
Дык крычыце-ж... (як раней).
Ці-ж ня дурань мужык гэта:
Гарэ, сее усё лета,
А як прыйдуцца дажынкі,
Няма збожжа ні ясьмінкі,
А даждаўшы на Каляды,
Мужыкі мякінцы рады.
Дык... (як раней).
Усю зіму возам цягне
Да вагзалу рожна збожжа.
Ногі зьмерзнуць, сам засьмягне,
А на хлеб кажух заложа,
Каб дажыць як да крапівы,
Абы ў поле выйшаў жывы.

Дык... (як раней),
Ад Пятра і да Якуба
Ен касой махаў ад раньня:
Наклаў стагоў, людзям — люба,
У хаце-ж сена — ані званьня,
Равець з голаду скаціна,
Хоць, кінь, бяжы за вачыма!
Дык... (як раней).
Глядзі, касьцёл аж да неба,
Воласьць бляхамі пакрыта!
Срэбрам скрые, калі трэба,
Бо за гэта яго біта,
А сам жывець ў мокрай яме,
Дзьверы заткнуў анучамі!
Дык... (як раней),
З камаровы нос сякерку
Сьцісьне, крэкне, замахае, —
Зробіць пушчу, як талерку,
Сьвет дравамі закідае!
А у хаце зварыць страву,
Пашчапае стару лаву!
Дык .. (як раней).
Глядзі, горы паразрыты,
А чыгункай сьвет абвіты:
Усё з мужыцкай цяжкай працы,
Усе едуць у палацы;
У мужыка-ж няма білета!
Ці-ж ня дурань мужык гэта?
Дык крычыце-ж, біце ў звоны:
Дурны мужык як варона!

У. Неўскі.

## Мне знаць.

Што-ж, куплеты, дык куплеты,
Мы таксама можам сьпець,—
Хоць з нас простыя паэты...
Дык прашу-ж не чырванець!
Для прыкладу возьмем панну:
У рукавічках, твар гарыць,
Пекната і гібкасьць стану
Можа вас заваражыць.
„Цо" ды „венц", танцуе вальсы,
Крышку ўмее і чытаць...
Колькі-ж ў ей абману й фальшы,
Тое мне дазвольце знаць!
Вось і пан... народ так цісьне,
Абзывае ўсіх „скатом."
Перад ім ніхто й ня пісьне,
Навет сам пан-аканом.
„Ну, такая ўжо краіна,—
Кажа пан,—што трэба драць..."
А які ён сам скаціна,
Гэта мне дазвольце знаць!

## Прыпеўкі.

1. Ах ня ўмееш, ах ня ўмееш,
Што пасееш, паліваць:
Падвадзіў мяне да дому,
Ды ня ўмеў пацалаваць...

2. Каб ты добрынькі быў,
Дык прышоў-бы ка мне—
На часінку пагуляць,
Мне прыпевачку сьпяяць.
3. Ах сонейка, сонейка!
Закаціся скоранька.
Мой міленькі, мой харошы,
Скінь боцікі, прыдзі босы.
4. У гародзе ня лясе
Тры гарошынкі,—,
Ен мяне пацалаваў
Ен—харошанькі!
5. Цераз рэчку жэрданька...
Баліць мае сэрданька:
Клічу мілага—ня чуе,
Не вядома, дзе начуе.
6. Няма яблынкі пры плоце—
Недзе яблычак сарваць:
Няма мілага на йгрышчы—
Няма з кім і пагуляць.
7. Я вадзічку нясу—
Каромысьлік гнецца...
А мой любы на мяне
За нештачка дзьмецца!
8. Як учора—дык і бусінькі,
А сягоньня—нічагусенькі,
Як учора--дык за ручку вядзецьне
А сягоньня—дык ня хоча глядзець
9. А Божа-ж мой ядыненькі,
Не гаворыць мой міленькі;
А Божа мой, што рабіць?
Перастаў мяне любіць!

10. Пакараець, пакараець,
Не даруець яму Бог:
Не адну мяне ён любіць,
А на леце, можа, трох...

11. Зазьнібела маё сэрца,
Я ня ведаю, чаго?
Я ня відзела мілога,
Дык нягож-та за яго?

12. Паразмые, паразмые
І крутыя берагі...
Маё сэрца ные, ные...
Па табе, мой дарагі!

13. Закацілась ясна сонца,
Перастала цёпла грэць,
Аддаліўся мой міленькі,
Перастаў мяне жалець.

14. Дробны дожджык ідзець,
Раса ападаець...
Любіў мяне маладую,
Цяпер пакідаець...

15. Не знайці такой бярозы,
А каб дождж не памачыў;
Не знайці такой любові,
А каб хто не разлучыў.

16. А у садзе жоўты цьвет
Зімы не баіцца;
Праз людзкія языкі
Кінулі любіцца!

17. Любіліся, кахаліся,
Як ластаўкі ў стрэсе...
А сягоньня разышліся,
Як ягадкі ў лесе...

18. Крыкнула вутка—
Сярод мора чуткa.
Гукнула дзяўчынка перавоз—
Я-б яе на ручках перанёс...

19. Колькі зорачак на небе,
Адна зорачка гарыць:
Есьць і гожых і прыгожых,—
Па аднэй сэрца баліць.

20. А Божа мой, сэрца рвецца,
Што дзяўчына не гарнецца.
А Божа мой, што рабіць:
Ні пакінуць, ні любіць?!

21. Дробны дожджык ідзець—
На ганачку гразка...
Любіў, любіў дзяўчыначку
І растацца цяжка!

22. А дзе-ж тая бярэзінка,
Што я вецьце ламаў?
А дзе-ж тая дзяўчыначка,
Што я сёлета гуляў?

23. Даўно-ж тая бярэзінка,
Ужо й вецьцем абрасла!
Даўно-ж тая дзяўчыначка
За нялюбага пайшла.

Я. Журба.

## Новая жалейка.

Дзіўная рэч нам зьявілася:
Мары ўвайшлі у жыцьцё,
З краем маё аднавілася
Сэрца і з ім пачуцьцё.
Смутныя струны, парвіцеся, —
Годзе вам жудасна ныць.
Больш ужо, сьлёзы, ня ліцеся:
Сонейка шчасьця блішчыць.
Кіну жалейку журботную,—
Стала ў жыцьці нам сьвятлей,
Кіну я песьню маркотную
І заяяю весялей.
Зроблю жалейку я новую,
Жыцьця сяброўку маю,
Сэрцам вясёлым маёвую
Песьню аб волі сьпяю.

Паўлюк Мальва.

## Гора і бяда.

Калі гэту кончыш работу:
То косіш, то жнеш, то гарэш,
То цэпам малоціш да поту
І рэдка калі аддыхнеш.

А там, глядзі, бульба на полі,—
Яе-ж трэба зараз скапаць;
А тут няма дроў, няма солі,—
Адкуль як і гдзе іх дастаць?

Страха на гумне працякае:
Направіць сьняпы і яе,
Бо дождж, як на зло, ня сьціхае:
Усё ён ліе ды ліе.

І хлеў, як калека бязногі,
Зусім пакрывіўся на бок,
І жджэ маей, бедны, падмогі,
Каб зьдзержыць яго хоць кусок.

Куды ты ні глянь—усё работа,
Рабі і рабі без канца,
Там тына няма, няма плота,
То кошык спляс́ьці—ні дубца.

На ўсё гэта трэба і часу,
Усяго ты ня зробіш зараз:
Калі нап'ешся ты квасу,—
Вада астанецца ў запас.

Бывае, што навет ахоту
К рабоце ты можаш згубіць,
Як глянеш, што ўсю ты работу
Ня кончыш да сьмерці рабіць.

Жылося-ж-бы, можа, й нічога,
Зірнуўшы сюды ды туды,
Каб ў хаце ад Бога ці злога
Ня відзеў ніякай бяды.

А то вот вясной і далося:
Ня знаю, з чаго сьвінчанё,
А посьле і горай прышлося:
Заелі ваўкі канянё.

Дачка пашла замуж нядаўна,
Ды ў шчасьці нядоўга была:
Як вышла там нешта няспраўна,
Узяла ды дамоў уцякла.

А жонка з бяды абамлела,
Цяпер і ня есьць і ня сьпіць,
І мусіць саўсім захварэла,
Бо толькі ляжыць ды ляжыць.

Цяпер ты як хочаш вярціся,
А далей дабра не чакай.
Прышло, хоць ваўком абярніся
Ды ў лес ад бяды уцякай.

Відаць, што і гора з бядою
У цесным суседзтве жывуць
І пеўна яны меж сабою
І крэпкую дружбу вядуць.

Бывае, што гора праходзе,
Нігдзе ня відаць і бяды;
Яна-ж, межы тым, блізка ходзе;
І шух!.. быццам човен з вады.

І хочаш—ня хочаш, а трэба,
Як госьцю, яе спатыкаць
І сьлёз ей каўшом замест хлеба
На стол, як вады, наліваць.

Нап'ецца яна колькі хоча,
Яшчэ і у прыпол набярэ,—
Выходзе... глядзіш, а ўжо точа
І гора свой нож на дварэ.

Натальля Арсеньнева.

*
* *

Мая душа аж да краёў паўна
Прыгожай, сьветлай нейкай сілы...
І ўсё здаецца ясным, мілым,
І неба сіняе, і хвалі тумана
Над местам рэдкія, і залатыя клёны,
І стромкіх, тонкіх хвой убор цёмна-зялёны.
Здаецца, шчасьце гдзесь каля мяне,— так блізка,
Здаецца... я магу узяць яго рукой,
А не магу... Вось так, як над ракой
Схіляюцца кусты вярбіны, часам, нізка
А ўсё ня здолеюць напіцца тэй вады,
Што вабіць, бедных, іх і тыдні, і гады...

Гальяш Леўчык.

# Дажынкі на Беларусі ў 1920 г.

...Вось так жнеі, вось так жніва!
„Збожжа" шэра, чорна, сіва....

Гэта-ж людзі ў кроўнай лужы,—
Серп пажаў іх гостры, дужы.
Ня ў гумне ім—ў тробе быці,
Чэрві будуць малаціці...
Іх зярнят люд не пазнае,
Усе „снапэ“ пясок зраўняе...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Вось так жніва, вось дажынкі!
Дзе-ж сялянскія будынкі?
Гаспадар дзе з гаспадыняй,
Што ўладалі поўнай скрыняй?
Дзе-ж вадэ, вазэ і снасьці,
Каб снапэ ў гумно пакласьці?..
— Ніц нямаш—вайна, гарматы
Зжалі ўсё—людзей і хаты....

Валадзімір Жылка.

## Незразумелае.

О, какъ убійственно мы любимъ...

*Ф. Тютчевъ.*

Як малою хапала ты сьвет,
І казала з трывогаю мацi:
„Гэта жыжка, дзіцятка маё!“—
Ты сьпяшалася ручкі прыняці.
    А цяпер вось каханьня вагню
    Аддаеш пачуцьцё ты і сілы,
    А заўважыць хто гэта табе—
    У вадказ ты сьмяешся так міла...

## Беларускія Ведамасьці

*Зборнік № 1.*

**Зьмест:** Плач старога лясуна — верш Н. Арсеньневай; У 1920 годзе — апавяданьне М. Гарэцкага; Літоускі Статут, З Літоускага Статуту у рэдакцыі 1529 года; З друкаванага Літоускага Статута у рэдакцыі 1588 г.; З літэратурнай хрыстаматыі (аб Ф. Багушэвічу); Хмаркі, Калыханка, Бог вяроўка дзеліць, Песьня №7 — вершы Ф. Багушэвіча; 400-лецьце друку у Вільні; Люблінская вунія 1569 г. — Н. Станіча; Берасьцейская царкоўная вунія 1596 г. — Л. Г. - Ч.; Навумюк Бахрым; З твораў Н. Бахрыма; Гутарка Данілы з Сьцяпанам, Размова пана з мужыком—вершы Н. Бахрыма; Быт нашых прадзедаў — М. Кахановіча, Слаўныя угодкі: Аб „Нашай Долі“—Дзядзькі Правука; Родны край — верш Я. Коласа; З перапіскі невядомага беларускага аўтора (1564 г.); І осень — верш Н. Арсеньневай; Самае кароткае апавяданьне — М. Гарэцкага; Статут Таварыства Беларускае Школы; Паншчына — апавяданьне М. Гарэцкага; *** (У небе пылаюць чырвоныя хмары...) — верш Н. Арсеньневай; Дзед — верш В. Жылкі; Стары Вайсковы Статут — А. С; Будка № 175, На старой дзялянцы — вершы А. Смаленца.

Партрэты: Ф. Багушэвіча, Ф. Скарыны, Цёткі (А. Пашкевіч) І. Луцкевіча і Я. Коласа.

Прыклад друку з „Апостала“ Ф. Скарыны.

Усяго 80 старонак.

**Цана:** 100 польскіх марак з перасылкай; для падпісчыкаў „Белар. Ведам.“ — 75 польск. марак.